ДЫСКУСІЯ

# Хто займаецца жангліраваннем?

Добры дзень, паважаная рэдакцыя «Народнай Волі»!

На старонках газеты з'явілася некалькі артыкулаў-водгукаў на нататкі Аляксандра Фядуты «Слезть с иглы». Хачу выказацца і я.

Гісторык Гігін папракае Фядуту ў «жонглировании аргументами», а вось сам, каб даказаць абавязковую патрэбнасць саюза з Расіяй, для пацвярджэння свайго меркавання прыводзіць гістарычныя падзеі выбарачна і аднабакова. Для пачатку трэба спытаць, якое дачыненне мае жаніцьба Аляксандра Неўскага на полацкай князёўне да сённяшняга саюза Беларусі з Расіяй?

Гігін даказвае, што вялікім прыхільнікам саюза з Масквой быў Леў Сапега. Сапраўдныя гісторыкі пацвярджаюць гэты факт і сцвярджаюць, што такое памкненне Льва Сапегі было вызначана вялікай пагрозай славянам з боку ваяўнічага мусульманскага свету, каталіцкай Еўропы і пратэстанцкага саюза. Гісторыя сведчыць, што Льву Сапегу не ўдалося пераканаць Маскву ў неабходнасці такога саюза. А чаму? Пра гэта Гігін маўчыць. Ужо ў тыя даўнія часы маскоўскія правіцелі мелі імперскую філасофію і прагнулі самі завяваць суседнія землі. Вось чаму меркаванні Льва Сапегі не збыліся.

Гігін маўчыць, што акрамя Льва Сапегі былі выдатныя правіцелі, пры якіх ВКЛ дасягнула росквіту. Гігін не прамаўляе, што былі выдатныя дзеячы нашай айчыны, якія змагаліся з усходнімі суседзямі за самастойную незалежную дзяржаву. Дастаткова прыгадаць Астрожскага, Касцюшку, Каліноўскага, Беларускую Народную Рэспубліку, якую маскоўскія бальшавікі здолелі задушыць. Чаму ім удалося гэта зрабіць? На мой погляд, таму, што збылося тое, пра што меркавала нямецкая жанчына (якая стала расійскай царыцай Кацярынай II), напісаўшы ў 1796 годзе ў сваім указе: *«Великое Княжество Литовское впредь именовать только Белой Русью, а народ ее белорусами, чем на века привяжем ее к России. Замирить Белую Русь силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у белорусов не только их язык, но и саму память про самих себя».*

На вялікі жаль, расійскі і савецкі рэжымы многае аднялі ў беларусаў. Падпісанне дагавора аб стварэнні «саюзнай дзяржавы» Расіі і Беларусі лічу вялікай памылкай. Заўважце, ніхто з новых незалежных краін не памкнуўся стварыць «саюзную дзяржаву» з Расіяй. І сцвярджэнні Гігіна, што *«отрицать достижения союзного строительства было бы необъективно»*, нічым не пацвярджаецца. На сёння гэта, як бачым, зразумеў і сам Лукашэнка.

Вадзім Гігін прапануе беларускім уладам патрабаваць ад Расіі зусім не многа: *«1) равноправное политическое и экономическое сотрудничество; 2) социальные гарантии белорусским гражданам в рамках Союзного государства; 3) доступ к дешевым энергетическим ресурсам; 4) сохранение свободы внешнеполитического маневра»*. Што гэта азначае? Зноў надзея на «халяву»? Няўжо наіўны гісторык Гігін не памятае, што нам прапаноўваў прэзідэнт Пуцін? Магу напомніць: шасцю губернямі ўвайсці ў склад Расіі. А прэм'ер-міністр Мядзведзеў прапанаваў пачаць з увядзення рускага рубля і гэтак далей па спісе. Тым не менш Гігін акцэнтуе, што *«мы неплохо уживались со слабой ельцинской Россией»*, і прапануе: *«Нужно научиться жить с новой и амбициозной путинской»*. Прапанова неблагая, але як гэта зрабіць? Пра гэта Гігін маўчыць. Маўчыць таму, што ведае: сяброўства Беларусі з Расіяй можа быць толькі нашкталт сяброўства пана з батраком.

Сённяшнія правіцелі Расіі свае імперскія памкненні лічаць гістарычна абгрунтаванымі. А вось што кажа на гэты конт сапраўдны гісторык – прафесар з Гродна Генадзь Семянчук: *«Асновай імперскіх прэтэнзій Расіі здаўна быў міф пра старажытную Русь як агульную калыску самых рускіх, беларусаў і ўкраінцаў. Фальсіфікатары гісторыі былі заўсёды. Пры Сталіне навука гісторыя перастала быць навукай, ператварылася ў служанку ўлады. Але і тады з'яўляліся сумленныя гісторыкі. Напрыклад, гісторык-марксіст Пакроўскі, які спрабаваў разглядаць Расію як турму народаў. Дык яго расстралялі і вучняў яго расстралялі. Ён пісаў як шчыры марксіст, не разумеючы, што пры ўладзе імперыялісты, якія падкарэкціравалі рыторыку. Тое, што завецца старажытнарускай мовай, літаратурай, дзяржавай – адзінай і моцнай, не існавала да часу Сталіна. Ані пры царах, ані пры ранніх Саветах такі тэрмін не ўжываўся. Упершыню яго ўвёў у навуковы абарот ленінградскі гісторык Маўродзін. І ўсё гэта ўпісвалася ў ідэалогію, дзе «савецкі чалавек» быў вянцом эвалюцыі нейкага міфічнага «старажытнарускага чалавека».* Думаю, што Гігін чытаў гісторыка з Гродна, але маўчыць, бо яму, як мне здаецца, праўда гісторыі не патрэбна.

Што тычыцца артыкула настаўніка гісторыі Сямёна Борыса, то магу сказаць, што яго разважанні і прапановы рэальныя і заслугоўваюць быць прынятымі чытачамі «Народнай Волі» ды і большасцю беларусаў. З прапановай Сямёна Вікенцьевіча *«провести выборы в Национальное собрание без Ермошиной»* я не згодны, бо замена Ярмошынай на другую такую ж асобу нічога не дасць. Трэба карэнным чынам змяніць выбарчую сістэму.

**Уладзіслаў ПРУДНІКАЎ.**
*Аграгарадок Усце Аршанскага раёна.*

СТОП-КАДР



# Магілу абавязкова накрыць...

Унікальная традыцыя памінання продкаў захавалася ў вёсцы Высокае на Магілёўшчыне. Там на Радаўніцу магілы пакрываюць абрусамі і накрываюць бяседны стол. Праз некалькі кіламетраў ад вёскі пачынаецца зона адсялення.

ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

# Моя дочь должна попасть под амнистию

Тысячи заключенных, их родные ждут амнистии. Но министр внутренних дел сообщил, что осужденные по так называемым коррупционным статьям не выйдут на свободу. Мне кажется, что здесь не может быть огульного подхода. Не все те, кому инкриминировали ту или иную коррупционную статью, являются взяточниками. Многие понесли наказание за превышение власти или злоупотребление служебными полномочиями. Очень сложна оценка их действий, не каждый судья по своей квалификации может вникнуть, скажем, во все тонкости работы того или иного руководителя, считают: раз дело заведено Следственным комитетом, рассмотрено прокуратурой, то дело судьи применить статью и вынести приговор.

Чтобы не быть голословной, приведу конкретный пример. Моя дочь работала управляющим ЦБУ ОАО «БПС-Сбербанк». В 2015 году коллегиальным органом (кредитным комитетом этого ЦБУ, где она являлась председателем) с ведома и одобрения центрального аппарата банка был выдан кредит двум белорусским коммерческим организациям, что позволило организациям рассчитаться с ранее полученным кредитом, банку получить доход, и остальная часть кредита позволила кредитополучателям рассчитаться с нашими белорусскими предприятиями за поставленную продукцию, то есть цель получения кредита оправдана.

Но в банке есть служба безопасности, которая должна показать свою работу и доказать, что зарплату они не за так получают. Кредит, по ведомственной инструкции этого банка, должен выдаваться после положительного заключения службы безопасности. По шести кредитам, полученным ранее этими коммерческими организациями, были положительные заключения этой службы. По последнему специалист этой службы сказал, что он подготовил положительное заключение, оно на подписи, можете кредит выдавать (в суде он это подтвердил), что и было сделано. А заключение так и не прислали и не сообщили, что его не будет. В суде никто не исследовал, какое должно было быть заключение – положительное или отрицательное.

Внутренний контроль спустя шесть месяцев обнаружил, что в деле нет этой бумажки. Раз нет заключения, дочь, которая отработала в этом банке 21 год и была признана «Лучшим руководителем» системы, уволили с работы, и в 2016 году встал вопрос о заведении уголовного дела. Из-за отсутствия ущерба Следственный комитет отказал в его возбуждении. А посадить ее службе безопасности хотелось, подтвердив тем самым свою значимость. Тогда «сделали» ущерб (не буду расписывать, каким образом), и суд первой инстанции вынес приговор по ч.3 ст.426 – четыре года лишения свободы за превышение служебных полномочий, а также постановил взыскать всю сумму задолженности по кредитам с моей дочери, с конфискацией имущества (хотя по декларации о доходах и расходах, представленной во время следствия в налоговой орган ее расходы все подтверждены полученными доходами). После рассмотрения жалобы Генпрокуратурой приговор областной коллегии по уголовным делам был частично пересмотрен и дали три года колонии (нижний предел) по этой статье.

Изымается ее имущество, продается и этими суммами гасится кредит, полученный организацией. Кредитополучатели в недоумении, что им делать. Гасить кредит или нет, раз вся сумма, согласно постановлению суда, взыскивается с моей дочери. Они даже мировое соглашение в областную коллегию по гражданским делам предоставили о том, что они согласны гасить кредит согласно договору, по которому его получали. Но суд этого не учел. Какой парадокс: не брал, но плати, а кто взял – не плати.

Скажите, люди добрые, разве моя дочь коррупционер?! Она исполняла свои служебные обязанности, получала заработную плату по должности, никакого дополнительного вознаграждения за выдачу этих кредитов ей не выплачивали. Вот уже полтора года моя дочь находится в колонии и оттуда ведет борьбу с правосудием, но пробить эту стенку не получается! Похоже на то, что по коррупционным статьям никто сейчас не желает разбираться, а тем более что-то отменять. Что-то изменить мы сможем только, наверное, после обращения к Президенту.

Ее два деда сражались на фронтах Великой Отечественной войны, один погиб, второй остался жив, получил ранения. Она не брала взяток, не замечена в так называемых откатах. Разве к ней, моей дочери, нельзя применить амнистию? Здесь действительно нужен индивидуальный подход, на что мы, родственники, и надеемся. В законе, как когда-то сказал Александр Григорьевич Лукашенко, все не пропишешь, и во всех случаях решение должно приниматься с учетом многих нюансов.

**Таисия Владимировна КЛИМАНОВИЧ.**
*г.Лепель.*

МНЕНИЕ

# Не надо постоянно жить в страхе

Договор России и Беларуси о создании Союзного государства лежал и пылился до тех пор, пока он не понадобился Путину. В 2024 году у него кончается срок президентства, и если запустить в ход кое-какие положения союзного договора, то можно продлить президентство на 6–12 лет.

Что нам делать? Выйти из этого договора. Не надо нашему народу жить в страхе, что однажды под предлогом защиты нас от соседей, НАТО или своего народа Россия введет войска на основании этого печального договора. Он связывает нас по ногам и рукам, в случае беды мы не сможем защититься от агрессора или позвать на помощь те страны, которые обещали быть гарантами целостности нашего государства.

**Владимир ДУДКО, пенсионер, 84 года.**
*г.Бобруйск.*

СОВЕТ

# Почему бы не поучиться у финнов?

Недавно мне пришлось ехать по дороге из Гродно в Минск. Заканчивается ее капитальный ремонт. Все хорошо, если бы не одно «но». На остановках сделаны навесы для укрытия от непогоды, есть стоянки для машин. Но какой ужас – за красиво оформленным навесом такой туалет, что негде ногою ступить. Представляете, как реагируют на такое бескультурье иностранные туристы!

Два года назад мне довелось побывать в Финляндии и прилично поездить по ее дорогам. Там довольно частые остановки с буфетом, туалетом и комнатой отдыха. Почему бы нам не поучиться?!

**Михаил ДУДАРЕВИЧ, минчанин.**

ХОЧУ СКАЗАТЬ...

# Обещали – сделайте!

*В «Народной Воле» неоднократно поднимался вопрос о возвращении вкладов, «сгоревших» на счетах населения в девяностые годы. Власти несколько раз обещали компенсировать людям потери. И была такая попытка, нищенская, унизительная, за те начисленные деньги можно было купить три-четыре булки хлеба.*

*Вот какую отписку я получил несколько лет назад от тогдашнего министра финансов В.В.Амарина. Сегодня хочется надеяться, что руководство страны найдет все же возможность и к юбилею освобождения Беларуси от фашизма нам, пострадавшим вкладчикам, будут возвращены те деньги, которых мы лишились в давние времена.*

**Михаил АНИСКОВЕЦ, пенсионер, ветеран труда, инвалид.**

МІНІСТЭРСТВА ФІНАНСАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
вул. Савецкая, 7, 220010, г. Мінск,
тэл. (017) 309 41 03, факс (017) 222 45 93
АКОДК 02200, р/р 3604900000573,
ААТ «ААБ Беларусбанк», код 795, УНП 100691903

МИНИСТЕРСТВО ФИНАНСОВ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ул. Советская, 7, 220010, г. Минск,
тел. (017) 309 41 03, факс (017) 222 45 93
ОКОГУ 02200, р/с 3604900000573,
ОАО «АСБ Беларусбанк», код 795, УНП 100691903

19.08.2015 № 1-1-32/А-353
на № ______ от ______

Анисковцу М.А.
ул. Ташкентская, д. 18, к. 3, кв. 11,
220066, г. Минск

Уважаемый Михаил Александрович!

В соответствии с поручением Администрации Президента Республики Беларусь от 07.08.2015 №15/7-2937 Министерство финансов рассмотрело Ваше обращение и по вопросу возврата денежных сбережений сообщает.

В Республике Беларусь в целях возмещения потерь граждан от обесценения сбережений, произошедшего в результате инфляционных процессов, на основании решений Президента и Правительства Республики Беларусь, Верховного Совета Республики Беларусь с 1992 года предпринимались соответствующие меры, направленные на их восстановление.

Так, компенсационные мероприятия по сбережениям граждан проводились в соответствии с постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 06.04.1992 №187 «Об индексации сбережений населения», постановлением Верховного Совета Республики Беларусь от 05.02.1993 №2183-XII «Об индексации вкладов населения в учреждениях Сберегательного банка Республики Беларусь и компенсации накоплений граждан по долгосрочным договорам страхования», постановлением Кабинета Министров Республики Беларусь от 21.12.1994 №258 «О компенсации вкладов населения в Сберегательном банке».

В дальнейшем проведение компенсации вкладов в Сберегательном банке осуществлялось поэтапно.

Во исполнение поручений Президента Республики Беларусь в 1996–1997 годах производилась компенсация вкладов ветеранов войны. Начиная с 1998 года, всем вкладчикам Сберегательного банка Республики Беларусь, имевшим в период с 1 января 1992 года до 1 января 1995 года соответствующие вклады, согласно Указу Президента Республики Беларусь от 21.04.1998 №229 «О компенсации обесценения вкладов и облигаций целевого беспроцентного займа 1990 года на приобретение товаров длительного пользования (ценных бумаг)» было предоставлено право на компенсацию обесценения денежных сбережений. Компенсации в соответствии с данным Указом Президента Республики Беларусь выплачивались до 31 декабря 2007 года.

Меры, направленные на восстановление сбережений населения, осуществлялись в пределах финансовых возможностей государства. Начисление компенсаций производилось в зависимости от суммы и сроков нахождения денежных средств на счетах, а также с учетом индекса потребительских цен. Решение о проведении компенсационных мероприятий не может носить индивидуальный характер.

Вопрос возможности проведения дополнительных компенсаций по сбережениям населения в настоящее время в республике не рассматривается.

**В.В.АМАРИН, министр.**

З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

# ...І я напісаў музыку

Нядаўна (26.03.2019 г.) на старонках «Народнай Волі» быў змешчаны верш Антаніны Цімашковай «Не бывае нясмачнага хлеба». Яе радкі мяне вельмі кранулі, і я напісаў да іх музыку. На мой погляд, атрымалася неблагая песня, але будзе лепш, калі гэта вырашаць чытачы газеты. Таму было б добра, каб быў надрукаваны нотны варыянт.

Некалькі слоў пра сябе.

Нарадзіўся я 8 студзеня 1938 года ў Віцебску. Дзіцячыя і юнацкія гады прайшлі на Ушаччыне.

У 1955 годзе паступіў у Віцебскае музычнае вучылішча па класе баяна і пасля яго заканчэння ў 1959 годзе мяне накіравалі ў Лепельскую музычную школу, у якой адпрацаваў 54 гады.

Вышэйшую адукацыю атрымаў у 1976 годзе. Завочна скончыў Ленінградскі інстытут культуры, факультэт аркестравага дырыжыравання.

**Эдуард ЛІТВІН.**



АРТ-ЖИЗНЬ

# Он с детства не любил овал, он с детства угол рисовал

Только что на мировые экраны – и минские в том числе – вышел фильм известного британского актера и режиссера Рэйфа Файнса «Нуреев. Белый ворон» – история скитаний легендарной звезды мирового балета Рудольфа Нуреева, первого «невозвращенца» в СССР после гастролей в Париже (после побега Нуреев был признан изменником родины и заочно осужден на семь лет лишения свободы). Главную роль в фильме исполнил талантливый танцовщик Олег Ивенко, премьер Татарского театра оперы и балета и выпускник Белорусского государственного хореографического гимназии-колледжа.

Попытаться повторить, пусть и на экране, божественный танец Нуреева – это, конечно, бросить вызов судьбе. Но как среди множества талантливых молодых танцовщиков современности нашли и выбрали именно его, Олега Ивенко? Оказывается, слава постучалась к артисту через социальные сети, куда просто пришло приглашение на пробы в проект, который начинал готовить Рэйф Файнс. Молодой танцовщик сначала не поверил этому сообщению и удалил его как спам. Однако через две недели помощник кастинг-директора связалась с ним снова, и вскоре Ивенко поехал-таки в Санкт-Петербург на скрин-тест. И был выбран среди пяти претендентов!

После премьеры фильма на Московском международном кинофестивале на Олега Ивенко обрушился шквал внимания. Естественно, всех интересовала биография артиста. В одном из интервью его даже спросили, чувствовал ли он себя когда-нибудь «белой вороной», так же как Нуреев. Олег признался, что в классе минского хореографического училища ему далеко не всегда было комфортно, потому что он был на полтора-два года младше однокашников: «Я существовал обособленно – концентрировался на своих задачах и оттачивал собственную стратегию на будущее. Нелепо, конечно, сравнивать себя с Нуреевым, но я тоже много работал, оставался в балетном зале по ночам, хотел добиться результатов. Так что какие-то точки соприкосновения есть – не могу идти за толпой, мне нужно, чтобы было наоборот».

Педагог Белорусского хореографического колледжа заслуженный артист Сергей Иванович Пестехин, у которого занимался Ивенко, вспоминает, что Олег приехал учиться в Минск из Украины.

*– И, как у всех украинцев, у него просто в крови желание быть лучше других. Это вам не белорусы, которые любят пожаловаться на жизнь. Помню, что у всех перемена, отдых, а Олег звонит и спрашивает, какой класс свободный, чтобы поработать самостоятельно. Я ему говорил: «Ты мне не даешь покоя!»*, – не без улыбки рассказал Сергей Иванович. *– Однажды мы ехали с ним в поезде на балетный конкурс в Пермь, так Олег даже в вагоне работал: постоянно сидел на шпагате и даже умудрялся делать батманы. У него уже тогда проявлялся действительно нуреевский характер.*



После окончания Белорусской хореографической гимназии-колледжа у Олега Ивенко было тринадцать предложений, в том числе от Большого театра в Минске и Большого театра в Москве. Но он выбрал Казань – танцовщику понравился репертуар, который ему сразу предложили в театре имени Мусы Джалиля. Думаю, теперь у танцовщика появятся приглашения от знаменитых европейских театров.

**Виктория ДРОЗД.**

СКАНДАЛ

## Предъявлено обвинение экс-главе Danske Bank



Датская прокуратура предъявила бывшему исполнительному директору Danske Bank Томасу Боргену обвинение в причастности к одному из самых громких мировых скандалов с отмыванием денег. Об этом сообщает газета Borsen со ссылкой на адвоката самого Боргена. Financial Times со ссылкой на источник подтверждает, что Боргена обвиняют в том, что он не смог предотвратить ряд сомнительных сделок.

Адвокат Питер Шрадик подтвердил также, что 12 марта в доме у Боргена был проведен обыск.

В отношении Danske Bank ведется расследование по подозрению в отмывании около 200 млрд евро, которые были проведены через эстонское отделение банка в период с 2007-го по 2015 год. Подозрительные переводы шли из России и других бывших республик СССР.

ПАМЯЦЬ

# Ён выратаваў амаль 6000 чалавек…

*У мястэчку Мір Карэліцкага раёна адкрылі мемарыяльную дошку японскаму дыпламату Тыўнэ Сугіхара.*

Дошку ўмацавалі на будынку былой ешывы (яўрэйскай вышэйшай вучэбнай рэлігійнай установы), у якім зараз знаходзіцца паштовае аддзяленне. У часы Другой сусветнай вайны японскі дыпламат Тыўнэ Сугіхара *(на здымку)* выратаваў ад смерці тысячы яўрэяў, у тым ліку з Беларусі і непасрэдна з Міра.



У сакавіку 1939 года Сугіхара быў прызначаны віцэ-консулам у Каўнас, тады сталіцу Літвы. Пасля далучэння Літвы да Савецкага Саюза ў 1940 годзе шматлікія яўрэйскія ўцекачы з Польшчы і савецкія яўрэі намагаліся атрымаць выязныя візы, без якіх было немагчыма пакінуць краіну. Японскі ж урад на той час патрабаваў ад жадаючых атрымаць уязную візу выканання пэўных іміграцыйных працэдур і наяўнасці немалой сумы грошай, чаго большасць яўрэяў не мела.

З 1940 года Сугіхара, адчуваючы, што заяўнікі апынуцца ў небяспецы, калі застануцца ў СССР, параішыся з сям'ёй, вырашыў выдаваць візы на ўласны страх і рызыку. Насуперак інструкцыям ён пачаў выдаваць яўрэям дзесяцідзённыя транзітныя візы праз Японію.

Сугіхара працаваў над выдачай віз 18–20 гадзін у дзень да 4 верасня, пакуль консульства не было зачынена. Калі зачынілі консульства, мужчына некалькі дзён здымаў нумар у гасцініцы і працягваў ставіць візы. А перад тым як з'ехаць з Літвы, пакінуў консульскі штамп бежанцам, каб тыя мелі шанц на жыццё.

За гэты час ён паспеў выдаць японскія візы тысячам яўрэяў, якія таксама мелі права па іх вывезці ўласныя сем'і. Цэнтр Сімона Візенталя ацэньвае агульную колькасць выратаваных з ягонай дапамогай уцекачоў прыблізна ў 6000, а колькасць іхніх нашчадкаў, што засталіся жывымі дзякуючы ягонай ахвярнасці, – у 40 тысяч.

Сам жа Сугіхара пасля ад'езду з Літвы працаваў консулам у Празе, Калінінградзе, Бухарэсце. У рэшце рэшт вярнуўся ў Японію, дзе яму давялося развітацца з дыпламатычнай службай і перайсці на пасаду прадстаўніка японскай гандлёвай кампаніі ў СССР. У 1985 годзе Тыўнэ Сугіхара атрымаў ад ізраільскага ўрада званне «Праведнік народаў свету» за выратаванне яўрэяў у ваенныя гады. Памёр Тыўнэ Сугіхара ў 1986 годзе.

На адкрыцці мемарыяльнай дошкі ў Міры прысутнічаў ягоны сын – **Набукі Сугіхара**. Шыльда ў гонар японскага дыпламата ў Міры ўсталявана па сродкі яўрэйскага таварыства ў Беларусі. Аўтар мемарыяльнай дошкі – беларускі скульптар **Аляксандр Фінскі**.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ПОСЛЕ ТРАГЕДИИ

# Следователи сделали вывод об ошибках экипажа

Сотрудники Следственного комитета и Росавиации проверяют действия экипажа сгоревшего в аэропорту Шереметьево самолета Sukhoi Superjet 100. Уже выявлено несколько допущенных экипажем ошибок, в связи с этим ведется проверка системы обучения пилотов «Аэрофлота», рассказали РБК собеседники, знакомые с ходом расследования.

Источник в Следственном комитете рассказал РБК, что летчики допустили ряд ошибок, которые косвенно повлияли на распространение пламени. «Из опроса пилотов Дениса Евдокимова и Максима Кузнецова ясно, что после приземления самолета они открыли в кабине боковое открывающееся окно», – рассказал собеседник в СКР. Это действие экипажа могло усилить тягу воздуха и, соответственно, скорость горения, отметил он. Информацию подтвердил собеседник в Росавиации.



Также к усилению горения мог привести тот факт, что пилоты не выключили двигатели самолета сразу после посадки – «двигатели работали до того момента, пока их не потушили», – рассказал источник в СКР.

Как известно, авиакатастрофа SSJ100 произошла в Шереметьево вечером 5 мая. Самолет, выполнявший рейс Москва–Мурманск, запросил возвращения в Шереметьево после попадания молнии, из-за которого произошел сбой электроники, в том числе возникли проблемы с радиосвязью. Экипаж принял решение сажать самолет с полными топливными баками. При посадке самолет загорелся. В результате произошедшего пожара, по последним данным, погиб 41 человек из 78 находившихся на борту.

ПУЛЬС

## Чуть-чуть не дотянули до 1000 евро

В Латвии назвали средние нетто-зарплаты за прошлый год, то есть суммы, которые работник получает на руки «чистыми».

Оказалось, что в соседней стране средняя зарплата после всех вычетов составила 948 евро. В Риге средняя нетто-зарплата превысила 1000 евро, в Рижском регионе и Юрмале достигла 960 евро.

Что касается оплаты труда в разных сферах, то самая большая средняя нетто-зарплата с учетом премий была у специалистов по информтехнологиям и программированию – 1285 евро, далее следуют банковские и финансовые услуги – 1137 евро, телекоммуникации – 1086 евро. Самые низкие нетто-зарплаты – меньше 700 евро – в прошлом году получали работники образования, искусства и культуры и отрасли общепита.

## За «измену родине»

Конституционная ассамблея Венесуэлы лишила неприкосновенности семерых депутатов парламента страны. Ранее Верховный суд разрешил возбудить в отношении этих оппозиционеров дело об «измене родине, призыве к мятежу и узурпации власти».

Оппозиционные депутаты, о которых идет речь, принимали участие в выступлениях 30 апреля, когда Хуан Гуайдо попытался призвать венесуэльскую армию перейти на свою сторону. В Каракасе это назвали попыткой военного переворота при поддержке США. К слову, по данным неправительственных организаций, после этого выступления задержали около 340 активистов.

## Пить стали больше



По всему миру употребляется все больше алкоголя, говорится в исследовании, результаты которого публикует медицинский англоязычный журнал The Lancet. Как следует из данных, полученных из 189 стран, потребление алкоголя с 1990-го по 2017 год возросло на 70 процентов. Причинами этого называются общий прирост населения и возросшее потребление на душу населения. Однако прирост сильно разнится в зависимости от региона исследования. В то время как потребление алкоголя выросло в Индии, Китае и Вьетнаме, в восточноевропейских странах наблюдается его снижение. Кроме того, в исследовании говорится, что количество сторонников трезвого образа жизни остается одинаковым.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# Казахский этнос строит свое независимое государство

*По такому пути должны пойти и мы, белорусы.*

Покидая президентский пост, Нурсултан Назарбаев с видимым волнением сказал, что в течение 30 лет честно, не жалея сил и здоровья, служил своему народу, все свои знания и умения отдавал строительству независимого национального государства.

Этим высказыванием он безошибочно разделил все политические элиты планеты и их лидеров на две категории.

Первую категорию политических элит и их лидеров составляют интернационалисты, то есть денационализированные люди (по меткому выражению писателя Валентина Распутина, «существа неврazумительные и аморальные»). Представители этой категории много говорят о благе народов, которыми они управляют, уверены, что они самые лучшие лидеры, и поэтому власть никому не отдают. Они готовы сражаться за нее до последней капли крови своего народа.

Вторую категорию политических элит и их лидеров составляют националисты. Эти люди понимают, что человек является частью Природы, а нация является государствообразующей, базовой ячейкой нашей цивилизации. В своих действиях националисты руководствуются законами Природы. Поэтому целью каждого националиста является не власть, а построение своего национального процветающего государства и создание Союза Свободных Независимых Государств.

Мудрый Нурсултан Назарбаев отделил «котлеты от мух». Команда, созданная им для реализации грандиозного проекта, состояла, несомненно, из единомышленников, одухотворенных великой мечтой видеть свою страну процветающей, а нацию – одной из наиболее просвещенных в мировом сообществе. Естественно, в такой команде не было места людям с мотивацией воровства, то есть действовал природный механизм самоочищения. Поэтому все силы народа Казахстана и его ресурсы были сконцентрированы на достижении великой цели. На практике начала формироваться государственная идеология социальной гармонии.

Идеология социальной гармонии рассматривает нацию как базовую ячейку цивилизации, как единое гармоническое целое ее трех базовых социальных слоев: собственников, наемных рабочих и чиновников. Нация является полноправной хозяйкой территории своего проживания. Она организует свою жизнедеятельность на основе бережного использования природных, физических и интеллектуальных ресурсов ареала своего проживания, проводит независимую внутреннюю и внешнюю политику. Связь с иными нациями осуществляет на основе равноправного союза свободных наций (ни в коем случае не государства народов) на основе технологической интеграции (не ассимиляции, не экспансии).

Идеология отвечает интересам всего человечества, отдельной нации, отдельного человека. Она ликвидирует основу межнациональных конфликтов, переводит решение спорных вопросов в мирное русло, то есть обеспечивает новую стратегию развития социальных процессов.

Казахская нация успешно строит свое национальное государство, показывая своими достижениями соседним народам (башкирам, татарам, удмуртам, народам Сибири и Дальнего Востока и иным народам России), как свобода, независимость народа раскрепощают его внутреннюю энергию, интеллектуальный потенциал, делают рачительными хозяевами своей земли.

И вдруг лидер нации по своей воле оставляет высший государственный пост страны. В мозгах постсоветской денационализированной элиты, новоявленной аристократии нуворишей, это не укладывается. Они не могут понять патриота, националиста, который служил и будет продолжать служить своему народу.

А все просто и понятно. Лидер нации раньше всех в государстве понял, что в стране уже создан мощный духовный, моральный, интеллектуальный потенциал, создана и окрепла национальная элита, активными темпами развиваются образование, наука, растет производство, внедряются новейшие технологии во все отрасли народного хозяйства. Поэтому объективно создались в стране условия, когда опыт, авторитет лидера стали объективным тормозом развития человеческого потенциала нации, так как каждый человек хочет услышать одобрение своей деятельности Президентом, а это оковы для самореализации человека при раскрытии его человеческого потенциала.

И Президент принимает, как он выразился, непростое для себя решение. Непростое решение не потому, что он отдает власть, а потому, правильно ли он рассчитал, что его решение пойдет на пользу делу всей его жизни – поступательному развитию молодого национального государства.

Для дальновидного политика, создателя основ национального государства, великого патриота страны было понятно, что дальнейшее развитие страны будет зависеть от уровня общественного сознания всего народа страны, от активности его участия в социальных процессах, от уровня его духовного и морального состояния, от уровня внешней и внутренней безопасности государства. И для этой, определяющей темпы развития страны, государственной деятельности в полной мере понадобится и опыт, и знания, и интуиция, и международный авторитет, и личный пример, и напряженная работа лидера нации.

И лидер нации, как и положено, берет на себя определяющий сегмент государственного строительства: руководство теоретическим и практическим идеологическим обеспечением страны, от которого будут зависеть дальнейшие успехи национального государства. Эта деятельность неразрывно связана с работой по созданию равноправного союза свободных наций (ни в коем случае не государства народов) на основе технологической интеграции (не ассимиляции, не экспансии).

Такой союз будет основой нового уровня развития цивилизации, основой достижения гармоничного развития социума.

В связи с этим долгосрочным проектом Нурсултан Назарбаев, занимая пост Президента Казахстана, пригласил в 2001 году в свою страну главу католического костела Яна Павла II. И миллионы людей разных национальностей и религий смогли непосредственно из уст понтифика услышать о том, что каждый народ, каждое этническое меньшинство имеют свой язык, свою культуру, свои традиции, свои особенности, свою идентификацию и что эти ценности имеют определяющее значение для поступательного мирного развития человечества, комфортной жизни каждого человека.

Стремление же построить денационализированную (выкорененную) цивилизацию является опасной утопией некомпетентных шовинистических политиков.

Обращаясь к национальным меньшинствам всех стран, Ян Павел II говорил, что им надо стремиться быть полноценными гражданами стран, в которых они живут, любить свою Родину и участвовать во всестороннем развитии этих государств. Это путь обеспечения максимального благополучия своим детям и внукам. Это путь гармонизации проживания национальных меньшинств в среде коренных наций, путь к социальной гармонии.

Несомненно, визит Яна Павла II, его выступления перед многотысячными массами людей были прямой поддержкой национальной государственной политики Казахстана.

Мне довелось проводить серьезные исследования причин распада Советского Союза на основе фундаментальных законов Природы. В 2001 году результаты исследований в виде монографии «Нация: путь к социальной гармонии» были разосланы всем лидерам государств, появившихся на постсоветском пространстве. К сожалению, откликнулась лишь администрация Президента Казахстана:

«Уважаемый Валерий Александрович!

Подаренная Вами Президенту Республики Казахстан Н.А.Назарбаеву книга «Нация: путь к социальной гармонии» передана Главой Государства на хранение в его личный архив и библиотеку.

Искренне признательны за Ваш труд. Примите наилучшие пожелания дальнейших творческих успехов!»

Что и говорить, было приятно получить оценку своего труда на таком высоком уровне. Но еще большее удовлетворение вызывал факт, что еще одна нация строит свое независимое государство в полном соответствии с законами Природы, что закладывается еще один камешек в фундамент построения мирового сообщества социальной гармонии. По этому пути должна идти и наша родная Беларусь.

**Валерий АРТИШЕВСКИЙ, профессор.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
10 МАЯ 2019 г.



С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ

Елена МОЛОЧКО

# Сталинизация головного мозга

В сувенирном киоске на площади Свободы столицы продают статуэтки Сталина. Гипсовые, подкрашенные золотым. По-моему, недешево: по 30 рублей за голову. Тем не менее осталась всего одна, сказала мне продавщица. Еще есть статуэтки Жукова, они по 20 рублей, потому что маршал вполовину меньше высотой. Их в загашнике осталось два. Он тоже хорошо продается. История навсегда связала маршала и вождя.

В киоск №5 «Сувеніры мінских майстроў» статуэтки привозит сам владелец, индивидуальный предприниматель. «Прямо от мастера. Старого мастера», – уточнила продавщица. Он еще делает зубров. Но животные не пользуются такой популярностью у туристов, как «вождь всех народов». Сталина покупают русские, немцы, наши местные тоже иногда приходят за Иосифом Виссарионовичем. Еще спрашивают Дзержинского и лишь однажды поинтересовались Брежневым. Но Брежнева мастер не штампует. Про него – вы заметили? – уже давно даже анекдотов не рассказывают. Генеральный секретарь растворился тумане.

А вот генералиссимус жив, жив... Им, как вирусом, как эпидемической инфекцией, заражено сознание общества. Одна писательница очень точно назвала это «сталинизацией головного мозга». Часть населения, кажется, реабилитировала тирана в своем сознании. Почему? Самый простой ответ: в годы репрессий пострадали не все поголовно, я знаю много семей (из беднейшего крестьянства, из рабочих), для которых Большой террор, пытки и лагеря – не личная история, не личная трагедия. Их предки худо-бедно выжили. И точным историческим знанием головы потомков не отягощены, сердца за погибших соотечественников у них не болят.

Еще одно из очевидных объяснений спроса на статуэтки тирана: почитание Сталина – своеобразный ответ на казнокрадство и коррупцию. Согласитесь, последний скандал с арестом заместителя секретаря Совбеза Втюрина при получении взятки почти в 150 тысяч долларов сильно впечатляет. Вряд ли такая фигура могла появиться в сталинскую эпоху. Не представляю, как от этого позора будет теперь отмываться власть. А простой народ, не рассуждая, выносит такой приговор: «Сталина на вас нет!» В том смысле, что никакие репрессии – вплоть до казни – в данном случае не лишние. Страшно? То-то и оно…

Властями Сталин вообще подспудно обеляется. Ведь неслучайно у нас возведена «Линия» его имени. И ездят люди на этот аттракцион по собственному желанию. Сталин олицетворяет желание части народа иметь диктаторствующего правителя, они не представляют жизнь без «сильной руки». «Вчерашний раб, усталый от свободы, возропщет, требуя цепей». Потому и Лукашенко двадцать пять лет у власти: его стиль в чем-то главном соответствует представлению большинства о «жесточайшей» иерархии в государстве.

Конечно, статуэтка Сталина – это всего лишь игрушка. Я понимаю: взять в руки маленького истуканчика – это как приручить опасного зверя. Его можно поставить на полку, а потом орехи головой разбивать. Есть в этом элемент уничижения ушедшего тирана. Смешно, согласна. Но рынок еще и термометр общественного сознания. Князя Витовта, например, на площади Свободы не продают, его фигура для большинства граждан, похоже, не имеет никакого значения. А вот злодейство и тирания, значит, манят, еще как манят…

РЭДКІЯ ЛЮДЗІ

# Заплаціць 750 долараў, каб прабегчы 1000 кіламетраў

*57-гадовы жыхар Ліды заняў 2-е месца на ультрамарафоне ў Нью-Ёрку.*

Да апошняга часу Лявон Анацка працаваў на Лідскай абутковай фабрыцы, але не так даўно звольніўся, таму вольнага часу, паводле яго слоў, стала больш. Ужо каля 20 гадоў ён узначальвае лідскі філіял ГА «Таварыства беларускай мовы» (ТБМ), а чатыры гады таму захапіўся марафонскім бегам. У 2015 годзе ўпершыню адважыўся на 12-гадзінны ультрамарафон, які праходзіў у Маладзечне.

*«Тады амаль пешшу, дзе ў абутку, дзе басанож, я прайшоў-прабег 67 кіламетраў*, – падзяліўся пасля ўражаннямі Лявон Анацка. *– Умовы былі, мякка кажучы, не вельмі прыдатныя. Жнівень, стадыён, тэмпература вышэй 30 градусаў. Але гэта была перамога – над самім сабой. Адчуў і зразумеў, што я магу!»*

За 4 наступныя гады лідчанін прабег больш за 40 звышмарафонаў – дзясяткі тысяч кіламетраў.

І вось зараз, як паведамляе hrodna.life, Лявон Анацка паспяхова фінішаваў у 10-суткавым забегу ў Нью-Ёрку. За гэты час Лявон прабег 1078 км 875 м і стаў другім у абсалютным заліку спаборніцтваў. Агулам у забегу ўдзельнічалі 22 мужчыны і 12 жанчын.



У першы дзень забегу жыхар Ліды пераадолеў 121 км, у другі дзень 106,7 км і з вынікам 227,7 км быў 8-м сярод 35 удзельнікаў.

Перад забегам Лявон ставіў мэту прабегчы не менш за 1000 кіламетраў. З такімі вынікамі можна патрапіць на наступнае запланаванае ім спаборніцтва – 3100 міль, ці без малога 5000 кіламетраў. Пераадолець такую адлегласць змаглі толькі 37 чалавек ва ўсім свеце, беларусаў сярод іх яшчэ не было.

*«Беглася лёгка, а вось прызавых на гэтым ультрамарафоне не было,* – коратка распавёў «Народнай Волі» з Нью-Ёрка **Лявон Анацка.** *– Дарэчы, за ўдзел у гэтых спаборніцтвах трэба было яшчэ заплаціць стартавы ўнёсак у памеры 750 долараў. Але ў гэтым выпадку грошы для мяне – не галоўнае...»*

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Эдуард ЗАНКАВЕЦ: «У вольны ад хакея час займаўся сям'ёй і самаадукацыяй»

*Вядомы беларускі хакейны трэнер распавёў «Народнай Волі» пра свой «творчы адпачынак», новы клуб і пераезд сям'і ў Санкт-Пецярбург.*

Як вядома, сваю трэнерскую кар'еру **Эдуард Занкавец** пачынаў у мінскім «Дынама», затым працаваў галоўным трэнерам нацыянальных зборных Беларусі і Казахстана, узначальваў «Барыс» і «Слован», уваходзіў у трэнерскі склад омскага «Авангарда» і піцерскага СКА.

Пасля працы ў славацкім «Слове» Эдуард Канстанцінавіч амаль год знаходзіўся, паводле яго слоў, у «творчым адпачынку».

І вось нядаўна Эдуард Занкавец быў прызначаны галоўным трэнерам клуба «Динамо» Санкт-Пецярбурга, які выступае ў Вышэйшай хакейнай лізе (ВХЛ).

Дарэчы, днямі былы настаўнік зборнай Беларусі канадскі спецыяліст **Глен Хэнлан** выказаўся пра гэтага беларускага трэнера так: *«Я падтрымліваю з ім сувязь, мы шмат гадоў працавалі разам. Гэта адзін з лепшых трэнераў, якіх я калі-небудзь сустракаў. Кансультуюся з ім з нагоды сістэмы гульні, дасылаю хакейныя відэакліпы – мне заўсёды цікава яго меркаванне. Упэўнены, у наступным сезоне Занкавец дасягне поспеху ў санкт-пецярбургскім «Динамо».*

**– Апошні год вы заставаліся без працы. Вырашылі крыху адпачыць ад трэнерскай работы ці былі праблемы з працаўладкаваннем?**

– Прапановы аб рабоце былі, але не вельмі мне падыходзілі. Таго, што мне хацелася б, не было. Адным словам, узяў паўзу да таго часу, пакуль не запрасіла піцерскае «Динамо», якое, да слова, дасылала мне такія запрашэнні не ў першы раз. Гэта для мяне, скажам так, знаёмая каманда.

**– Каля 10 гадоў таму вы ж працавалі ў трэнерскім штабе піцерскага СКА…**

– Тры гады там адпрацаваў, і, натуральна, у хакейным асяродку Санкт-Пецярбурга ў мяне засталося шмат знаёмых. Многія з іх якраз і працуюць у мясцовай камандзе «Динамо».

Дарэчы, трэба разумець, што клубы «Динамо» і СКА – гэта абсалютна розныя структуры. «Динамо» было створана ў 2013 годзе на базе дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ.

**– Чаму вы раней не прымалі прапановы ад гэтага клуба?**

– Па розных прычынах. Спачатку быў варыянт з працаўладкаваннем у КХЛ, затым яшчэ нешта. Адным словам, на той момант я яшчэ не саспеў да працы ў піцерскім «Динамо»…

**– Няўжо не было магчымасці за год знайсці працу ў беларускіх клубах?**

– Па-першае, канкрэтных прапаноў не было, па-другое, я сам не імкнуўся да гэтага. У мяне быў настрой працаваць менавіта за мяжой.

**– Вы ўжо пазнаёміліся з новай камандай?**

– Так, я цэлы месяц там ужо адпрацаваў. Магу сказаць, што інфраструктура добрая, клуб знаходзіцца ў спартыўным комплексе «Юбілейный», і там для паўнацэннай працы ёсць усё – асноўная зала, дзве трэніровачныя пляцоўкі.

Што тычыцца ігракоў, то ў асноўным гэта маладыя хлопцы да 27 гадоў. Шмат хакеістаў, якія прыйшлі з дынамаўскай школы, таму можна сказаць, што клуб скіраваны ў сваёй працы на развіццё ўласных выхаванцаў.

**– На які тэрмін вы падпісалі кантракт?**

– На два гады. 1 ліпеня каманда збіраецца, пройдзе медыцынскі агляд – і пачынаем працу. Затым адправімся ў Беларусь і возьмем удзел у турніры, які пройдзе ў Жлобіне і Гродне. А ўжо ў верасні стартуем у першынстве ВХЛ.

**– Сям'я з вамі адправіцца ў Санкт-Пецярбург?**

– Так, і гэта быў адзін з аргументаў на карысць піцерскага «Динамо» пры выбары працы. Месца і людзі знаёмыя, таму не так складана будзе адаптавацца. Дачка ж яшчэ малая, толькі другі клас заканчвае.

**– Ёй наогул весела вучыцца, бо, наколькі вядома, за два гады яна ўжо некалькі разоў мяняла школы ў розных краінах…**

– Такі лёс у дзяцей хакеістаў і трэнераў. Дачка ідзе па слядах брата, які таксама павучыўся ў розных школах свету – у Германіі, ЗША, Фінляндыі… Вось і яна вучылася ў Мінску і Браціславе, а зараз паедзе ў Санкт-Пецярбург.

**– Вы ў вольны ад хакея час чым займаліся?**

– Не сказаў бы, што вельмі быў загружаны працай. Калі ты не займаешся сваёй любімай справай, то час цягнецца досыць марудна. Першыя месяцы адпачынку адчуваў сябе камфортна, але з часам стаў ужо сумаваць без працы.

Але займаўся сям'ёй, самаадукацыяй, чытаў навуковую літаратуру.



**– Канадскі трэнер Глен Хэнлан сказаў, што пастаянна з вамі на сувязі…**

– Я з вялікім задавальненнем успамінаю часы нашай сумеснай працы. Мы насамрэч падтрымліваем стасункі. Тэлефануем адзін аднаму, раімся, абменьваемся нейкімі напрацоўкамі.

Калі ў гэтым сезоне Глен Хэнлан працаваў у Венгрыі, я нават ездзіў да яго, так што мы стараемся не губляць сувязі.

**Алесь СІВЫ.**

НУ І НУ!

# Надмагільныя пліты на… звалцы

Жыхары аднаго з гродзенскіх мікрараёнаў сярод смецця выявілі старыя надмагільныя пліты і помнікі з надпісамі прозвішчаў савецкіх салдат, якія вызвалялі Гродна ў 1944 годзе.



Людзей абурыла тое, што пліты з магіл салдат, якія вызвалялі горад ад немцаў у 1944 годзе, проста валяюцца на звалцы.

У выніку расследавання высветлілася, што надмагільныя пліты былі прывезены з вайсковых могілак, якія знаходзяцца ў Гродне на вуліцы Белуша. Сёлета да 75-годдзя вызвалення Гродна надмагільныя пліты і помнікі загінуўшым савецкім салдатам замянілі на новыя, а старыя папросту вывезлі і выкінулі на звалку.

Чаму так здарылася, пакуль ніхто не адказаў. У краіне былі доўгія выхадныя і да чыноўнікаў не ўдалося датэлефанавацца.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ЧУЛІ?

# 22-гадовы Дзмітрый Буйніцкі – у магнітагорскім «Металургу»

*Беларускі хакеіст стаў гульцом каманды, якая ў лідарах чэмпіянату КХЛ і двойчы з'яўлялася ўладальнікам Кубка Гагарына. Пагадненне разлічана на тры гады, паведамляе прэс-служба расійскага клуба.*

Буйніцкі – нападаючы, яму 22 гады. У апошнія сезоны лігі выступаў у складзе мінскага «Дынама», закінуў 13 шайбаў у 106 матчах.

«Дзякуем Дзіму за працу і жадаем поспехаў у новай камандзе. Няхай усё атрымаецца!» – так адрэагавалі ў «Дынама-Мінск» на пераход Буйніцкага ў новы клуб.



**Іван ШЫРОКІ.**

ЖАХ!

# Забіў траіх і збег…

Уначы 8 мая каля 00.30 п'яны мужчына без правоў гнаў на машыне па дарозе Бешанковічы–Асавец. На другім кіламетры дарогі аўтамабіль выкінула ў кювет, і ён перакуліўся.

У выніку трое пасажыраў – 27-гадовы і 26-гадовы мужчыны і 23-гадовая дзяўчына – загінулі на месцы здарэння. Яшчэ адна 33-гадовая пасажырка з траўмамі шпіталізавана.

Вадзіцель з месца здарэння ўцёк, аднак неўзабаве яго затрымалі супрацоўнікі міліцыі. У дачыненні да яго распачата крымінальная справа па ч.5 арт.317 Крымінальнага кодэкса.



РЭГІЁН

# У Пінску могуць з'явіцца чатыры крытыя тэнісныя корты

Арыенціровачны кошт праекта каля 600–700 тыс. долараў ЗША. Мясцовыя аматары вялікага тэніса разлічваюць, што 30–40% кошту пакрые Федэрацыя тэніса Беларусі. Таксама яны спадзяюцца, што не застанецца ўбаку Брэсцкі аблвыканкам, бо тады ў Брэсцкай вобласці з'явіцца круглагадовая база, на якой маглі б займацца тэнісам спартсмены і праводзіцца турніры высокага ўзроўню.

Дарэчы, крытыя корты ўжо ёсць у Гомелі і Магілёве, а цяпер такі ж праект, які прапанаваны Пінску, ажыццяўляецца ў Гродне.

